# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 44 (766) БЕЛАСТОК 1 ЛІСТАПАДА 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## ЗАДАЧЫ БГКТ У РАЗВІЦЦІ АМАТАРСКАГА РУХУ

(З ДАКЛАДА ПРЭЗІДЫУМА ГП БГКТ НА КАСТРЫЧНІЦКІМ ПЛЕНУМЕ)

### ПАСПЯХОВАСЦЬ НАШАЙ ПРАЦЫ Ў СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

Мінулыя гады ў галіне распаўсюджвання асветы і культуры характарызаваліся далейшым выкананнем ідэйнавыхаваўчых задач у працы нашага Таварыства. Спрыялі гэтаму важныя падзеі ў жыцці краіны і ўсяго народа, г.зн. і ў асяроддзі жыхароў беларускай нацыянальнасці: 25-годдзе існавання ПНР, 25-цігоддзе перамогі над фашызмам і далучэння Заходніх Зямель. Асаблівае значэнне мела ўрачыстае святкаванне 100-ай гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна.

Згодна з пастановамі VI З'езда БГКТ, сукупнасць нашай культурна-асветнай і грамадска-палітычнай працы канцэнтравалася вакол гэтых гадавін.

У святкаванне 100-ай гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна ўключыліся ўсе аддзелы нашага Таварыства, трактуючы яе як важную палітычную кампанію.

Было праведзена шмат гутарак аб Леніне, былі апрацаваны два даклады: «Ленін — правадыр, палітык, чалавек», і «Ленін — і справа Польшчы», якія выкарыстоўвалі ўсе аддзелы на арганізаваных акадэміях, вечарах і фэстынах. З гэтай нагоды адбылося 46 акадэмій, 153 лекцыі, 116 вечароў, 2 маёўкі, 38 канцэртаў эстрады «Лявоніха», 73 аўтарскія сустрэчы, 57 гутарак, былі прадэманстраваны 52 кінафільмы і зроблена 113 фотавыставак. Удзельнікі ўсіх гэтых мерапрыемстваў мелі магчымасць праслухаць арыгінальныя прамовы Леніна і песні, якія Ленін любіў, запісаныя на грампласцінках, маглі паглядзець выстаўкі, адлюстроўваючыя жыццё і творчасць Леніна, а таксама сучасныя дасягненні СССР.

Пад лозунгам святкавання 100-ай гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна і 25-годдзя перамогі над фашызмам аддзелы арганізавалі 8 фестынаў з разнастайнай праграмай. У некаторых аддзелах яна была асабліва багатая. Былі тут даклады, канцэрты калектываў мастацкай самадзейнасці, конкурсы на беларускую песню, адбываліся паказы пажарных каманд, паказы моды, матацыклетныя і іншыя спаборніцтвы. У некаторых фэстынах удзельнічала звыш 3 тысяч асоб. Фэстыны гэтыя былі масавымі маніфестацыямі беларускага і польскага насельніцтва. Мелі яны характар палітычны, але адначасова з'яўляліся культурна-асветнымі мерапрыемствамі. Такія фэстыны адыгрываюць вялікую ролю ў інтэграцыі грамадства.

Галоўнае праўленне БГКТ арганізавала два конкурсы «Беларуская песня — 1970», у якім удзельнічалі 32 самадзейнікі і агляд драмгурткоў, у якім прымалі ўдзел 33 калектывы, якія складаліся з 324 чалавек. У конкурсе «Беларуская песня — 70» у асноўным прымалі ўдзел члены харавых калектываў з Бельска і Гайнаўкі. Маючы на ўвазе вялікія магчымасці нашых асяроддзяў, колькасць удзельнікаў была вельмі скромная. Памылку гэтую трэба абавязкова выправіць у конкурсе «Беларуская песня — 71». Трэба наведаць усе нашы

Працяг на стар. 4



*Ушанаванне савецкіх воінаў, паўшых за вызваленне Голдапшчыны. На здымку ля Помніка ўдзячнасці (справа): камандуючы Варшаўскай ваеннай акругі генерал дывізіі З. Гушча, І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку А. Лашэвіч і намеснік міністра Нацыянальнай абароны Г. Корчынскі.*

## ПАЎШЫЯ пад ГОЛДАПАМ

Добры звычай кажа 1 лістапада ўспамінаць тых, каго ўжо няма сярод нас.

У брацкіх магілах у Вронках пад Голдапам спачывае прах 12-ці тысяч савецкіх салдат, спачывае далёка ад сваіх сяліб, ад бацькоў і сясцёр. Вечным сном герояў спяць яны ўжо 25 год, а да сну ім шумяць хвалі мазурскіх азёр і стройныя, маштавыя сосны, шумяць і расказваюць пра жыццё свабоднага славянскага люду, які праз шмат стагоддзяў ізноў вярнуўся на зямлю сваіх продкаў, каб болей ужо не адысці з яе, каб пераўтвараць яе ў квітнеючы куток непадзельнай, адзінай айчыны — Польскай Народнай Рэспублікі.

За тое вы, гераічныя воіны Савецкай Арміі, заплацілі скарбам найбольш каштоўным: уласным жыццём, за тое, мы памятаем пра вас і памятаць будзем. Вось нядаўна агульнаадукацыйны ліцэй у Голдапе названы імем Героя Савецкага Саюза Г. С. Канстанцінава, які загінуў менавіта ў час баёў за вызваленне горада.

Пачынаўся 1945 год — шосты год лютай вайны. Пасля летняй сакрушальнай, так званай «беларускай» наступальнай афензівы Савецкай Арміі, фронт спыніўся аж на Вісле ў Варшаве, а па рацэ Бебжа перасякаў сённяшнюю Беласточчыну, праходзіў праз

(Працяг на стар. 5)

Сустрэчы з „Нівай"

## Як збудуем наш дом . . .

Антаніна Жарначук — цяпер вучаніца II-га класа эканамічнага тэхнікума ў Бельску — пару год таму назад напісала ў віляноўскай школе: «У нашай вёсцы няма святла, святліцы, спартыўнай пляцоўкі і іншых патрэбных рэчаў. Нават бруку праз вёску. У будучым я хацела б, каб было ў вёсцы электрычнае святло. І каб дамы былі мураваныя, і каб быў каля кожнага дома агародчык. Каб было прыгожа і чыста. Хачу, каб як найхутчэй збудавалася новая прыгожая школа, у якой было б многа кніжак для чытання. Дзеці купаюцца цяпер у сажалцы з бруднай вадой. Хацела б я ўбачыць праз некалькі год у Вілянове купальны басейн. Каб прыйшлі ўсе гэтыя змены ў маю вёску, яна б стала цудоўнай!»

Аўтэнтычны грамадскі рух радзіўся ў вёсцы з надумам, з розмыслам. Без дэкларацый і прыездных аўтарытэтаў. Радзіўся гэты рух у вёсцы, бо неабходна было нешта зрабіць для вёскі, для ўсіх. Грамадскі рух ставаўся паволі і нязменна другой натурай людзей у Вілянове. Крышталізаваўся пры чорнай, цяжкай працы на зямлі. Радзіліся думкі новыя, шырэйшыя, чым былі ў дзядоў, якія радзіліся і паміралі, не адчуўшы бурлівага жыцця. Вёска ляжыць, як ляжала, сярод палёў і багнаў, куды нялёгка даехаць і адкуль нялёгка выехаць.

Праўдай будзе сказаць, што неспакой прыехаў у вёску разам з Анатолем Мартыновічам — чалавекам неспакойным, амаль рызыкантам. Засеў Мартыновіч у Вілянове, ажаніўся з мілай мясцовай настаўніцай Нінай, сардэчным чалавекам родам з падгайнаўскай вёскі Беразова. Рытм сэрца вёскі забіўся мацней. Думаць пачалі людзі пра змены. Верыць пачалі людзі, што ўласнымі спрацаванымі рукамі гэтыя змены зробяць.

Вёска не мела ніякай культурнай установы. Тут нават школа не такая, дзе б можна было сабрацца на сход. Школа тут у чатырох розных будынках — старых і нязручных. А мужчыны віляноўскія сходзяцца на сход у Сцяпанаву кухню. Як збярэцца іх больш, ідуць у школьны клас, што за сцяной. Тады дзеці, якія збіраюцца ў клас чытаць і рабіць урокі, ціха, як мышы, высоўваюцца з цесных лавак

Працяг на стар. 4

Новыя вершы

* * *

**Той, хто дрэвы садзіў, —**
**Будзе веснім іх цветам;**
**Той, хто сеяў зярняты, —**
**Жытам закаласіцца;**
**Хто спагадай дзяліўся —**
**Ажыве ва ўспамінах;**
**Хто склаў песню народу —**
**Рэхам песні ўваскрэсне.**

**МАКСІМ ТАНК**



*Сакольскія дываны. Рэпартаж з выстаўкі чытайце на стар. 4.*

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 143

## З ЦЫКЛА „ПАЛЕТАК"

* * *

Зарылася сонца ў травы,
як плуг залаты, ураджайны.
Хто ўмее служыць гэтак справе
карыснай і жыццедайнай?
Хто абагрэе пяшчотней
луг, нібы лопух вялізны?
Хто выкліча столькі залётаў,
і песенных сюррэалізмаў,
і меладыйных пачаткаў,
і каляровых фіналаў?
хто на праменных кладках
крыллі падасць карнавалам?
Сонца!
З якой жа ты байкі,
з якіх ты малітваў, уздохаў?
Упала ў луг балалайкай
і ходзіш па ім скамарохам.

* * *

*Дзяўчына, як фрэска*
*з пазалоты капліцы,*
*у пажоўклым абloку*
*даспелай пшаніцы.*
*Рукі ўзнімае*
*у неба скляпенне*
*з вясёлкаю сцеблаў*
*у радаснай жмені.*
*Багоў пасланцы —*
*мастакі і паэты!*
*Прыдзіце з майстэрняй*
*у гэты палетак.*
*Дайце мастацтву*
*панюхаць загоны.*
*Вядзіце ў мастацтва*
*сялянку-мадонну!*
*Стварыце мастацтва*
*у польнай капліцы,*
*дзе колер з пшаніцы*
*і рыфма з пшаніцы.*

*Алесь Барскі*



## ЗАЧАРАВАНАЕ КОЛА

*Вечар. Змрок. Дамы чарнеюць,*
*Б'ецца ў неба слупам дым.*
*Рукі з холаду сінеюць,*
*Не магу сагрэць нічым.*

*Да таго ў сэрцы пуста,*
*А ў душы журбы палон.*
*Цемната густою хусткай*
*Атуляе небасхлон.*

*А ў той цемнаце шалёнай,*
*Ападаючай да дна,*
*За чароўнаю заслонай*
*Я адзін і ты адна.*

*Ты знаходзішся, здаецца,*
*ў заварожаным кругу.*
*Не магу з табой сустрэцца*
*І пакінуць не магу.*

* * *

Жыццё, як вугаль,
як запалка,
як пень трухлявы,
што курыць.
У аднаго яно
іскрыцца
і без распалкі
разгарыцца,
другога — чахне,
ледзьве тліцца
і дагарае,
хоць гарыць.

*Л. Танкевіч*

* * *



І няма ўжо Івана.
І праз жыта скрай дарогі
Йшла з-над рэчкі. Закахана.
Губы. Грудзі. Ногі.

Таямнічы і зялёны
Вечар быў яе пасцеллю,
Ад напружанага ўзлоння
Травы пахлі яе целам.

У далонях сена прэла,
Шчэ нясла — як развітанне,
Як жаночае, даспелае,
Загорнутае ў ткані.

Ёй хацелася зямнога
Шчасця. І яна яго брала.
І вакол усё маўчала
Аб здарэнні ля дарогі.

* * *

Мая чырвона боль з белым дымам
бінту заціхала. Спачувальна
пара белых лебедзяў праплыла,
І я зыходзіў у зялёную даліну шуму.

Прыбой марскі хістаў мяне ўбакі,
Мяне неслі навыперадкі ўдаль.
Няптун нацэліўся трохзубцам ў грудзі,
І ты ў памяці балюча аджыла.

Спазняюся. Крычу. Няма пры мне нікога,
Чырвона боль з белым дымам бінту
Разгаралася. Сястры шпітальнай
твар усплыў
Над маім жыццём пацыраваным.

*І. Чыквін*



## НЕЦЯРПЛІВАЕ ШЧАСЦЕ

Рассыпалася шчасце
на расшыральнасць зрэнак
выцягнуліся рукі
на меру ненаеднасці
а шчасце не наша
і праз гэта
чалавек зрабіўся
чужэйшым

*Яша Бурш*



## АБУДЖЭННЕ

Змяркание дарэшкаю ўстала
з падсцілкі ночы
злізвае памяць
з аборваных сноў
трэскам суставаў
свядомасць у планы крочыць
прывычка раздзяляе дзень

## ВЫЗНАННЕ

*Мальвы ў маім*
*гародзе*
*як кроў чырванеюць*
*...вайны я не бачыў*
*мальвы*
*раслі на попеле хаты*
*бацькоўскай*
*— у іх*
*бачу колер пажару*
*рана на жываце ў бацькі*
*будзе вечна*
*немагчыма пра гэта забыць*
*ў маршчынах на твары маці*
*бачу засохлыя слёзы*
*мінулага болю*
*— вайны я не бачыў.*

*Костак Бандарук*

## АСЕННІЯ ЛІСТЫ

Зялёны бор
Глядзіць на гай
Маўкліва.

Лісты гуртом
Удаль ляцяць
Няспынна.

Вецер да хмар
Іх закружыў
Высока.

Лісты імчаць
Жоўтым, жывым
Аблокам.

Калі вятрук
Нацешыўся
Гульнёю,

Узад павярнуў,
Сустрэўшыся
З вярбою.

Ну, а лісты
Зірнулі ўніз
З адчаем,

Рака бурліць,
Быццам іх
Запрашае.

Прыпалі ўсе
Да сіняе
Сястрыцы,

Жывым гібець,
Ды ўжо ляпей
Утапіцца.

Але рака
Спакойна ім
Гаворыць:

— У чым бяда?
Разам памчым
Да мора.

Ды ўсе лісты
Задумана
Маўчалі.

На дно ракі
Па аднаму
Падалі.

І чуўся шэпт
Апошняе
Мінуты,

І белы дзень,
Аж пацямнеў
З пакуты.

Калі лісты
На дне ракі
Аселі,

То цені іх
На гай стары
Зляцелі...

Цені лістоў
Ляцяць жывым
Аблокам,

Вецер ізноў
Іх закружыў
Высока.

А цень ракі
Сінеецца
Ў тумане.

Цень будзе жыць,
Калі жыцця
Не стане.

*Уладзімір Гайдук*





## ТАДКУ...

Падняўся Сычоўскай раніцай
на беластоцкі ўзгорак
з ключом адмыкаць чалавечыя душы
з рэнтгенам
сэрцы відзючым як на далоні
у прыцемках Белавежскай пушчы
пятны на душах
сэрцаў адменныя ўдары
знайсці жадаў

прыбіваючым чаргой хуткастрэльнай позіркам
вухам лавіўшым
тоны камаровага лёту
смякалістымі рукамі
душы адкрыў
сэрцаў удару напрамак пачуў
мог напляваць у душы
мог пакалечыць сэрцы
няўмольна і дарэмна
стрэлы ўдараў мяняючы
не змог
ці не... захацеў
устрывожаны
кланічным стогнам...
для беркутаў
арлом быў шпоністым
...крылы птушак
спяваючых
панясуць песню...
панеслі песню.

*Мікола Врублеўскі*

Пачатак на стар. 1

# ЯК ЗБУДУЕМ НАШ ДОМ . . .

і толькі ад дзвярэй далятае іхняе ветлівае «да пабачэння».

Сказалі нарэшце людзі: збудуем сабе дом культуры. Пачалася вялікая работа. Пачалося вялікае збіранне грошай ад кожнай хаты, пачаліся сур'ёзныя размовы аб тым, што кожны будзе працаваць пры будове без ніякай заплаты. Вёска стала адным вялікім будаўляным варштатам. У гэтым варштаце групы працавалі і працуюць у святы і ўсе вольныя хвіліны. У варштаце наступіла спецыялізацыя прафесіі: звозчыкі і зносчыкі, муляры і печнікі, ды дзесяткі іншых прафесій, якім і назву цяжка прыдумаць — от звычайная чорная работа. А з чорнай работы віляноўцаў ужо цяпер, увосень 1970 года, стаў бела-шэры гмах віляноўскага дома культуры. Яшчэ без даху, бо з матэрыяламі рознымі — наракаюць людзі — цяжка. «За кожнай дробяззю трэба доўга ганяцца па розных гарадах і крамах», — кажа Анатоль Мартыновіч — старшыня віляноўскага камітэта будовы дома культуры. У камітэце гэтым разам з ім Аляксандр Швед, Яраслаў Касперук — усебаковы грамадскі дзеяч, член праўлення аддзела БГКТ, радны, Юзэф Жэрун, Павел Данільчук, Мікалай Стральчук. Але працуюць тут усе. Без апораў і паслухмяна, ведаючы, што, мо менш сабе, але затое для сваіх дзяцей змяняюць аблічча вёскі. А калі рукі занадта баляць і не вельмі хочацца, вярнуўшыся з поля, ісці працаваць пры доме культуры, неспакойныя людзі з камітэта будовы ходзяць па хатах — прыпамінаюць, падымаюць, скупымі словамі, спакойнымі і важкімі. Трэба! Не можам перарываць! Будзем пасля саромецца, што не вытрымалі! На нас глядзяць! І «ніхто яшчэ ніколі не адмовіўся, нават найстарэйшыя. Палажылі брук на вуліцы — чынам, увялі святло ў вёску — чынам, наладзілі дарогу — чынам, будуем дом культуры — чынам, пабудуем дарогу да аўтобуса да вёскі Катэрка — чынам, бо спалучыць хочам сваю вёску з светам, ведаючы, што дзяржава нам гэтага не зробіць, бо гэта справа нашай вёскі. Думаем і пра стадыён, і пра купальны басейн у вёсцы. Але не ўсё самі можам: не маем вось камасацыі, ані меліярацыі, няма сенажацяў».

Школа ў Вілянове — гэта балючая тэма. Кажуць людзі «будзем працаваць, колькі трэба, але каб нарэшце будаваць». А школа ў Вілянове 8-класная і будова яе запланавана, толькі адкладаецца з году на год». «Няма моцы пшэробовэй» — як малітву, паўтараюць гэта віляноўцы і большасць верыць, што моц народзіцца, але меншасць і верыць перастала. А. Мартыновіч заняўся аднойчы дзіўнай лагічна-рэалістычнай матэматыкай на тэму: будова школы ў Вілянове. І аблічыў у сухіх цыфрах, што за грошы, якія дзяржава заплаціла дагэтуль за пазычанне ад гаспадароў залаў на класы можна было б пабудаваць новую прыгожую школу. Карыстанне такімі заламі без уліку святла, рамонтаў і г.д. каштуе у год 47 тысяч. Гавораць людзі пра гэта не таму, што не разумеюць складанасці справы, але таму, што яны звычайна па-мужыцку ашчадныя і цэняць супольны грош. Хочуць выдаваць яго эфектыўна, а не абы як.

Грамадская ініцыятыва праяўляецца ў Вілянове і ў багатым мастацкім жыцці вёскі. Хор і драмгурток — адно і другое пад кіраўніцтвам Анатоля Мартыновіча — як адзін вялікі калектыў працуе ўжо нязменна многа год. Заробкі свае за выступленні ў наваколлі — 20 тыс. зл. — аддаў мастацкі калектыў на дом культуры. «Мы тут так гаворым і ў павеце нашым так хочуць, што як збудуем наш дом, дык зробім тут грамадскі асяродак рэгіянальнай беларускай культуры. Сюды прыйдуць людзі, нават старыя. Сядуць, будуць задаволены. У нас цудоўныя галасы людзі маюць. Які хор можна!»

*ВЕРА ЛЕЎЧУК*

# Сакольскія дываны



Пра сакольскія дываны даводзілася мне чуць не адзін раз. Мала таго, я іх бачыў і за іншымі паўтараў, што яны цудоўныя, прыгожыя, народныя. Але калі быў сам, абсалютна не разумеў, чаму іменна сакольскія дываны народныя і цудоўныя, а маёй мамы з Бельшчыны, хаця таксама цудоўныя, не вельмі народныя, а мо лепш — менш мастацкія.

З такімі ведамі паехаў я на выстаўку «Сакольскія дываны», якая адкрылася ў Павятовым доме культуры ў Саколцы з нагоды ўрачыстага адкрыцця ваяводскага культурнага года, з заданнем напісаць пра гэта. Быў я ў пэдэкоўскім памяшканні, дзе на сценах і на падлозе знаходзіліся дываны, яшчэ да афіцыяльнага адкрыцця. Нічога асаблівага не ўбачыў. Знаёмы з Беластока толькі занепакоіў мяне, калі сказаў: «Вялікая рэч дываны! Калісь селянін, прыехаўшы пад царкву, накрываў гэтымі дыванамі коней і ніхто не рабіў ніякае праблемы. А то?!...»

Але вось урачыстае адкрыццё адбылося. Праваднікам па выстаўцы была пані Барбара Студзінская з Беластоцкага музея, якая расказала аб сакольскіх дыванах. Ад гэтага змяніўся і мой погляд на іх.

*Гісторыя.* Спецыфікай сакольскіх дываноў з'яўляецца падвойная ткацкая тэхніка. Падвойнасць вынікае з таго, што ў гэтай тэхніцы ткацтва прымяняецца адзін уток і дзве асновы і таму, калі бярэш у рукі дыван, адчуваеш, што ён у некаторых месцах падвойны.

Гэтая тэхніка ткацтва была вядома ўжо ў XVI ст., а найшырэй у XVII стагоддзі на Мазурах. У XVIII ст. — абсалютна занікае. Зноў сустракаем яе на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства ў раёне такіх мясцовасцей, як Тыкоцін, Аўгустоў, Граева, Гродна, у канцы XIX і ў пачатку XX стагоддзяў. Аднак апошнія цікавыя, арыгінальныя вырабы народных ткачоў паходзяць з гадоў 1895—96. Потым гінуць народныя ўзоры. Што праўда, сама падвойная тэхніка надалей вядома, але ва ўзорах пануе мода т.зв. капавая (ад слова капа — пакрывала), што не з'яўляецца ні арыгінальным, ні цікавым.

Адраджэнне сакольскіх дываноў прыпадае на 30-ыя гады міжваеннага перыяду і звязана з прозвішчам прафесар Элеаноры Плютынскай. Прафесар Плютынская, якая з дзіцячых гадоў зжылася з народнымі гуцульскімі тканінамі і польскімі і украінскімі кілімамі, ад 1934 года пачынае апекавацца як прафесар варшаўскай акадэміі мастацтва народным ткацтвам ва ўсходніх ваяводствах, а асабліва ў Беластоцкім.

Аднойчы, будучы на Сакольшчыне, праф. Плютынская села на воз і тут жа ўбачыла на сядзенні прыгожы дыван. Захапілася яго мастацтвам, прыгажосцю, быццам бы знайшла кветку шчасця. Падгаварвае гаспадыню Феліцыю Ярашэвіч ткаць такія дываны, але першым ткачом праф. Плютынскай быў муж Феліцыі. Відаць, жанчыне не было тады гонарам ткаць такі «вясковы», «мужыцкі» ўзор. Прафесар Плютынскай аднак удаецца да гэтага ткацтва прыцягнуць жанчын. Памалу жанчыны адкідаюць «капавыя» ўзоры, робяць па-свойму, з галавы. (А мая мама на Бельшчыне часцей за ўсё ткала з гатовых узораў, а не з галавы, і ў гэтым асноўная розніца). Такім чынам, ізноў на сакольскіх дыванах паяўляюцца ўзоры звяроў, лесу, саду, пасекі. У часе вайны праца спыняецца, але пасля вайны праф. Плютынская працягвае «найважнейшую працу свайго жыцця» — апякуецца падвойнай тканінай на Беласточчыне.

Зараз ткацтва дываноў найбольш распаўсюджана ў ваколіцах Янава, Тафілаўкі і Васілёўкі, а найбольш актыўныя ткачыхі-мастачкі — гэта Сабіна Маселбас, Аляксандра Радульская, Аўрэлія Маеўская, Феліцыя і Алімпіяда Ярашэвіч і іншыя.

*Значэнне.* Аказваецца, што накрыванне каня ці воза дываном мела сваё значэнне. Дыван быў адным з элементаў пасагу маладухі. Нават і ў іншых раёнах Беласточчыны колькасць дываноў ці плахтаў у сундуку сведчыла аб заможнасці маладухі і аб яе гаспадарнасці. Не загінула гэта яшчэ і сёння. На старых сакольскіх дыванах мы бачым вытканыя карагоды дамашняй звярыны і птушак. Гэта таксама сведчыла аб заможнасці гаспадыні, якая ткала дыван. Так што, калі хто бачыў такі дыван на фурманцы, можна было адразу прачытаць заможнасць гаспадара.

*Як зараз?* Зараз вядома, што падвойная ткацкая тэхніка была вядома ў Скандынавіі, але на многа раней занікла, і ў Мексіцы. Пакуль што невядома, адкуль узялася гэтая тэхніка ва ўсходніх раёнах Польшчы.

Сакольскія ткачыхі бяруць узоры з галавы, і гэта каштоўнае сваёй непаўторнасцю. Фактычна, двух аднолькавых дываноў не знойдзеш. А воўна павінна быць выключна са звычайных авечак.

Тэхніка гэтая цяжкая, але арыгінальная і прыгожая. Таму Міністэрства культуры вельмі дбае пра яго развіццё, прызнаючы ткачыхам-мастачкам у г.г. 10 узнагарод — стыпендый.

Гэтая кропля ведаў аб сакольскіх дыванах можа быць толькі прычынай, каб зацікавіцца глыбей гэтым унікальным мастацтвам.

*На нашых здымках фрагменты з выстаўкі «Сакольскія дываны».*

*Аляксей Карпюк*

*Фота Цаф — Сянько*

Пачатак на стар. 1

# Задачы БГКТ у развіцці аматарскага руху

гурткі, ўсе вясковыя клубы, а вынікі будуць, несумненна, значна лепшыя, чым у мінулым годзе.

Галоўнае праўленне супольна з Кураторыяй беластоцкай школьнай акругі і секцыяй беларускага школьніцтва Акружнога метадычнага цэнтра арганізавала ў пачатковых школах з беларускай мовай навучання два конкурсы: у класах I—IV — дэкламатарскі конкурс, а ў класах V—VIII — конкурс літаратуразнаўства і гісторыі беларускага народа.

Задачы, намечаныя ў праграме святкавання 100-ай гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна, былі выкананы паспяхова дзякуючы шырокаму супрацоўніцтву з грамадска-палітычнымі і культурна-асветнымі арганізацыямі, а таксама адміністрацыйнымі ўладамі асяроддзяў. Вельмі добра ідзе супрацоўніцтва з аддзелам культуры Ваяводскай рады нарадовай, прафсаюзамі, Кураторыяй беластоцкай школьнай акругі, з ваяводскім і павятовым праўленнямі Саюза вясковай моладзі, ВЗГС-ам, ПЗГС-ам, ГС-амі, пажарнай аховай і сельскагаспадарчымі гурткамі. Усе гэтыя ўстановы дапамаглі нам арганізоўваць нашыя мерапрыемствы. Людзі гэтых устаноў незалежна ад таго, ці належалі да членаў Таварыства, ці не, ўключыліся ў супрацоўніцтва з намі. Прыкладам можа паслужыць агляд калектываў нацыянальных меншасцей, арганізаваны ў нашым ваяводстве па ініцыятыве Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта партыі. Асноўным каардынатарам гэтага агляду быў аддзел культуры Ваяводскай рады нарадовай, які сканцэнтраваў вакол конкурсу розныя ўстановы. Дзякуючы гэтаму агляд быў праведзены паспяхова і паказаў дасягненні мастацкай самадзейнасці нацыянальных меншасцей. Добра было б такія агляды арганізоўваць у будучыні.

## МЭТА МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ — ВЫХАВАННЕ НОВАГА ЧАЛАВЕКА

У мінулым культурна-асветным годзе, у нашым асяроддзі дзейнічала 12 вакальна-харавых калектываў, у якіх налічвалася 234 асобы, 56 драмгурткоў, у якіх прымалі ўдзел 672 самадзейнікі; дэкламатарскі калектыў у горадзе Беластоку і літаратурная эстрада ў Варшаве.

Для таго, каб пачаць і весці адпаведную працу мастацкага калектыву, патрэбныя адпаведныя людзі, рэпертуар і метадычна-інструктажная дапамога. Мы можам мець вялікую колькасць удзельнікаў мастацкай самадзейнасці, мы можам дастаткова забяспечыць калектывы рэпертуарам, аднак няма ў нас адпаведнай колькасці кваліфікаваных інструктараў. У якасці прыкладу можна прывесці Орлю, дзе ёсць інструменты, дзе ёсць людзі, якія з ахвотай гатовы ў кожны момант аб'яднацца ў мастацкім калектыве, аднак няма адпаведнага інструктара, у выніку чаго ані інструменты, ані імкненні людзей не выкарыстаны належным чынам. Такіх прыкладаў можна было б падаць значна больш.

У мастацкай самадзейнасці вялікую ролю адыгрывае рэпертуар. Як у харавых калектывах, так і драмгуртках, а таксама дэкламатарскіх гуртках вялікае значэнне мае змест рэпертуару. Змест рэпертуару павінен быць такі па характару, каб павучальна ўздзейнічаў на гледача і каб меў высокую ідэйна-мастацкую вартасць. Мэтай мастацкай самадзейнасці з'яўляецца дапамога ў выхаванні новага сучаснага чалавека, чалавека, які імкнецца пазнаць акружаючую яго рэчаіснасць і з'яўляецца актыўным яе стваральнікам.

У нашым асяроддзі значнай папулярнасцю карыстаюцца творы нашых пісьменнікаў з літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Несумненна таму, што адлюстроўваюць яны сучасныя жыццёвыя моманты нашага асяроддзя, паказваюць праблемы і справы штодзённага жыцця.

Маючы гэта на ўвазе, пісьменнікі літаратурнага аб'яднання «Белавежа» павінны прысвяціць большую ўвагу (чым дагэтуль) пісанню сцэнічных твораў больш змястоўных і сэнсоўных, з багатай формай і тэматыкай з сучаснага жыцця.

Драмгурткі з'яўляюцца адной з выдатнейшых форм арганізаванага культурнага жыцця ў асяроддзі, маюць характар масавага ўплыву і таму трэба прыкласці ўсе сілы да таго, каб павысіць іх узровень. Сярод насельніцтва трэба будзіць зацікаўленне драмгурткамі і мастацкімі калектывамі ў тых асяроддзях, дзе іх яшчэ няма. Вялікім дапаможным сродкам у працы нашых драмгурткоў былі б курсы для кіраўнікоў-аматараў. Арганізаванне такіх курсаў для людзей, якія кіруюць нашымі драмгурткамі, спрыяла б павышэнню мастацкага ўзроўню драмгурткоў і стварала б магчымасці пашырэння іх уплыву на асяроддзе. Ёсць магчымасці лепшай падрыхтоўкі ін-

# ПАЎШЫЯ *пад* ГОЛДАПАМ

*(Працяг са стар. 1)*

горад Аўгустоў і па рэчцы Распуда лінія яго накіроўвалася на паўночны захад.

Голдап знаходзіўся ўсяго ледзь у 5—6 кіламетрах ад гэтай лініі. Знаходзіўся ў руках фашыстаў, быў часткай іхняй Усходняй Прусіі, якая, бы рак, вырасла на целе прыбалтыйскіх і славянскіх народаў і таму з'яўлялася гняздом бадай найбольш лютага, пастаянна ваюючага, прускага мілітарызму. Ва Усходняй Прусіі нарадзіліся і мелі сваё вялікія маёнткі такія вось славутыя гітлераўскія дзеячы, як гаўляйтэр Эрых Кох, як лепшы сябар Гітлера Гайнрых Герынг, як генералы Вейс і Гудэрыян. Тут, ва Усходняй Прусіі, сам Гітлер лічыў сябе найбольш бяспечным і, відаць, таму між азёрамі пад цяперашнім Кентшынам загадаў пабудаваць славутае «воўчае гняздо».

Дык фашысты ўсімі сіламі стараліся ператварыць Усходнюю Прусію ў недаступны бастыён. Дзеля гэтага яшчэ ў 1932 годзе быў распрацаваны немцамі план пабудовы густой сеткі ўмацаваных раёнаў і рубяжоў абароны. Гэтыя працы набралі асаблівa вялікага размаху ў 1944 годзе. Спрыяла ім тутэйшая прырода: шматлікія возеры, рэчкі, узгоркі, густы і вялікі лес.

Усходнюю Прусію абараняла 580 тысяч нямецкіх салдат і афіцэраў, якім дапамагала 200 тысяч фольксштурмоўцаў. У іх распараджэнні было 8.200 гармат і мінамётаў, амаль 700 танкаў і 515 самалётаў. Генерал Гудэрыян у сваіх успамінах падае, што гітлераўскі ўрад баяўся таго, што калі падзе Усходняя Прусія і Курляндыя, тады Швецыя прылучыцца да антыфашысцкай кааліцыі.

Абаронай Усходняй Прусіі камандаваў генерал-палкоўнік Г. Рэйнгардт Гітлераўская стаўка слала яму з Берліна рашучыя загады, каб не адступаў ані на крок. Нават тады, калі на фронце становішча для немцаў ставалася небяспечнае, галоўнае камандаванне вермахта патрабавала тут ад сваіх войск цвёрда стаяць на пазіцыях. А калі генерал Г. Рэйнгардт, каб не папасці ў акружэнне, самавольна адвёў войскі на якіх 10 кіламетраў, яго па прапанове Коха адразу ж пазбавілі пасады камандуючага групай армій.

Расказваем пра гэта не таму, каб славіць заўзятасць гітлераўскай арміі, а перш за ўсё таму, каб можна было ўявіць, што чакала савецкіх салдат на іх баявым шляху.

І вось настаў 13-ты дзень студзеня 1945 года. Ранак быў хмурны, ішоў снег і дзьмуў халодны вецер. Камандзіры хваляваліся. Дакладна апрацаваны план наступлення прадбачваў цесную дапамогу авіяцыі. Пры такой пагодзе самалёты не маглі аднак вылецець. Ды і не было ніякай магчымасці наглядаць за артылерыйскай падрыхтоўкай. Нічога аднак не можна было ўжо адмяніць. А 6-тай гадзіне раніцы адазваўся «бог вайны» — гарматы. Ад выбухаў дрыжала зямля, танцавалі дрэвы і ляцелі пад неба горы зямлі. Гэтае пекла прадаўжалася амаль дзве гадзіны. Здавалася, што з яго нават мыш не зможа выйсці жывая. Немцы аднак ухітрыліся. Пад заслонай туману і снегападу яны вывелі сваё войскі з першай траншэі і занялі абарону ў другой і трэцяй траншэях. Туды, на жаль, далятала на многа менш снарадаў. Дык спакойна змаглі яны перачакаць гэты шквальны агонь і, калі па лініі фронта разнеслося рускае «ура!», немцы выпаўзлі са сваіх сховішчаў і пачалі бязлітасна касіць чырвонаармейцаў.

Камандаванне загадала паўтарыць артылерыйскую падрыхтоўку. Ізноў ад 9-ці да 11-ці раніцы безупынна грукаталі снарады. Адна толькі 5-тая армія, на якую быў усклaдзены асноўны цяжар прарыва фронту, выстраляла за час артылерыйскай падрыхтоўкі звыш 117.000 снарадаў.

І на гэты раз немцы яшчэ не адступілі. У 2-гой і 3-цяй траншэях яны наладзілі арганізаваную, заўзятую абарону. Завязаўся крывапралітны бой. Кожны крок на захад байцы аплочвалі самай высокай цаной — жыццём сваіх баявых таварышаў. Так было аж да канца студзеня.

Вось чаму так многа салдацкіх магіл рассеяна сярод мазурскіх лясоў і палёў.

Голдап быў вызвалены толькі 21 студзеня. Дык тыдзень часу знаходзіўся ён на лініі баявых дзеянняў. Са звыш 12-тысячнага горада засталіся адны толькі руіны. Першая пасляваенная статыстыка падае, што ў 1946 годзе жыло ў Голдапе ледзь 632 асобы.

*В. Рудчык*

*Фота Цаф — Сянько*



*З нагоды святкавання 400-ай гадавіны горада Голдап, у Вронках, дзе знаходзіцца брацкія магілы савецкіх воінаў, паўшых за вызваленне гэтага кутка Польшчы, адбыўся ўрачысты мітынг дружбы.*

## ПРА СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ

У лістападзе г.г., як і ў мінулых гадах, сельскагаспадарчыя спецыялісты наведаюць вёскі. Яны будуць правяраць, як гаспадары выканалі мінулагоднія загады. Адначасова сельскагаспадарчыя спецыялісты падкажуць сялянам і мясцовым уладам, што трэба рабіць, каб дабіцца вышэйшага ўраджаю, каб аблегчыць працу хлебаробам. Найважнейшым аднак заданнем калектываў сельскагаспадарчых спецыялістаў надалей з'яўляецца выяўленне непрадукцыйных гаспадарак, выяўленне нявыкарыстаных рэзерваў пры прадукцыі хлеба.

*М. Нурэцкі*

структураў тэатральных калектываў на курсах, арганізаваных Ваяводскім домам культуры. У дзятыхчасовай працы нашы павятовыя аддзелы і гурткі замала цікавіліся гэтымі курсамі.

## ЁСЦЬ У КАГО ПАВУЧЫЦЦА

БГКТ на ўласныя сродкі вядзе тры хоры: у Гарадку, Гайнаўцы і Бельску Падляшскім. На працягу шматгадовай працы калектывы сталі шырока папулярныя не толькі ў вясковым асяроддзі, Яны згуртавалі вартасных удзельнікаў і падабралі патрэбны рэпертуар. Кожны калектыў унёс у выкананне свой уласны стыль. Гэтыя хоры ўключаюць у сваю мастацкую частку агульна вядомыя песні. Найбольш вартасным з'яўляецца тое, што патрапілі яны знайсці і ўключыць у сваю праграму багаты, рэгіянальны фальклор. Калектыў з Гарадка выконвае не толькі вядомыя песні, але складае таксама свае прыпеўкі. Розная іх тэматыка. Найчасцей аднак закранаюць яны актуальныя справы вясковага асяроддзя. Калі едуць з канцэртам у якую-небудзь мясцовасць, дык перад гэтым апрацоўваюць частку новых куплетаў, арганічна звязаных з гэтай мясцовасцю. Дзякуючы гэтаму іх праграма карыстаецца вялікім поспехам. Такім чынам, гарадоцкі калектыў не толькі ўзбагачае рэпертуар па колькасці, але і характэрнымі рысамі для данага раёна. У беларускім асяроддзі ў сучасны момант дзейнічае 12 вакальных калектываў, якія згуртоўваюць 234 асобы. На нашу думку, гэтых калектываў замала, а запатрабаванне на іх вялікае. Пакуль што не маем такіх калектываў у Сакольскім і Дуброўскім аддзелах. Замала таксама іх ёсць і ў Беластоцкім павеце. Можна было б падумаць аб стварэнні іх у Міхалове, Ялоўцы і Юшкавым Грудзе. Развіццё аматарскага руху ў значнай меры залежыць ад матэрыяльнай базы і сеткі культурна-асветных пляцовак на вёсцы. Там дзе ёсць святліца або клуб, ёсць больш магчымасці для развіцця аматарскага руху. Усё яшчэ маем выпадкі нярoўнамернага размяшчэння клубаў. Зусім няма іх у грамадах Рыбалы і Бельскім павеце, у Старакорніне і Клейніках у Гайнаўскім павеце. У грамадзе Кузніца на Сакольшчыне на 18 вёсак прыпадае толькі адзін клуб. Гэта не адзіны прыклад.

Адной з прычын недахопу клубаў з'яўляецца недахоп памяшканняў. І таму трэба мабілізаваць актыў БГКТ да прыстасавання грамадскім чынам нявыкарыстаных будынкаў на клубы і святліцы.

У 1971 годзе мы будзем урачыста святкаваць 15-годдзе існавання нашага Таварыства. У праграме святкавання прадугледжана многа культурных мерапрыемстваў. Будзе нагода, каб пахваліцца нашымі дасягненнямі. Гэта будзе таксама нагодай да пашырэння культурна-асветнай працы ў вясковым асяроддзі.

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізы старонкі на дроцік або шнурочак.*

**БІБЛІЯТЭЧКА "НІВЫ" ○ ЯНКА МАУР ○ ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ ○**



— Трымай мацней! А то ўцячэ! — тузаўся тым часам Віктар.

Мірон зноў ухапіўся дзвюма рукамі.

— Што ж гэта робіцца? — крыкнуў ён. — Ніколі не чуў, каб заяц дзюбаўся!

— Я ж пугача трымаю! Гэта ён. Трымай зайца, а я гэтаму лупатаму зараз галаву раструшчу.

І ён стукнуў птушку галавой аб дрэва. Потым гэтак жа забілі і зайца.

— Адкуль ты ведаў, што там дзеецца? — запытаў Мірон, калі яны са здабычай вярнуліся на сваё месца.

— Жаласны піск паказваў, што гэта нейкі невялікі звярок трапіў у бяду. Тузаніна ў кустах сведчыла, што і вораг яго не надта моцны, калі яны так доўга тузаюцца. Потым пачулася нібы пляканне крыльяў, і тады мне прыйшла ў галаву думка, што гэта, мусіць, якая сава напала на зайца, як гэта часта пішацца ў кнігах. Але ж і запусціла кіпцюры ў спіну! Сама хацела вырвацца, ды не магла, таму і ўдалося схапіць. А цяпер паспрабуем запалкі, можа, ужо будуць гарэць.

Тыцнуўся Віктар туды-сюды, а запалак няма.

Хацеў быў накінуцца на яго Мірон, але раздумаў.

— Знойдзеш заўтра, — сказаў ён лагодна. — Ды, мусіць, і страта невялікая, бо, відаць, усё роўна з іх толку не было б.

— А есці хочацца... — неяк жаласна сказаў Віктар.

— Ты ж казаў, што мог бы есці сырое. Вось і еш.

— Ну, ну! Лёгка казаць. Але ўсё ж такі што мы будзем рабіць заўтра?

— Заўтра і будзем меркаваць, — сказаў Мірон і лёг у сваё логава. — А цяпер будзем спаць. Вось палажы сабе з другога боку зайца — хай грэе, а я палажу пугача.

Нарэшце дзённыя і начныя турботы змарылі хлопцаў, і яны заснулі так моцна, што, мусіць, цяпер іх не разбудзіў бы ні гром, ні мароз. А калі яшчэ паднялося сонца ды прыгрэла іх, то яны праспалі аж да поўдня. Прачнуліся, селі, азіраюцца.

— Учора гэтай парой як пад'еў... — пачаў быў Віктар.

— Давай лепш пашукаем запалкі, — перапыніў яго Мірон. — Тады і пад'ясі.

Расплюснуты карабок з дзвюма запалкамі знайшлі хутка. З хваляваннем чыркнулі — запалка засіпела і больш нічога. А другая нават і не засіпела...

— Ну і ліха з імі! — разлаваўся Віктар і ўскінуў на спіну зайца. — Хадзем лепш дахаты.

— А што рабіць з гэтай дурной савой?

— Вядома, брацьб. Гэта ж добры ўлоў. Зробім чучала і паставім у нашым прыродазнаўчым музеі з надпісам: «Злоўлены ў Палескай пушчы героямі-падарожнікамі і даследчыкамі Міронам Бажком і Віктарам Калягай уласнымі рукамі без ніякай зброі». Нават і зайца я згодзен ахвяраваць для навукі і славы.

І яны пайшлі ўздоўж возера ў той бок, дзе павінен быў знаходзіцца іх дом.



— Ты ж толькі што казаў, што хацеў бы пажыць некалькі дзён, — упікнуў Мірон.

— Ану цябе! — махнуў рукой Віктар.

Потым ён схіліўся і пачаў скубсці ды есці нейкую траву. Прыгледзеўся Мірон і ўбачыў светленькія далікатныя круглыя лісточкі так званай «заечай капусты».

— Значыцца, будзем абедаць? — сказаў ён.

Палажылі сваю здабычу і пачалі «пасвіцца».

Доўга яны жывіліся, змарыліся яшчэ болей. Нарэшце Мірон спыніўся і сказаў:

— Годзе ўжо, а то яшчэ захварэць можна.

Пасля «абеду» захацелася піць. Вада ў возеры была мутная. Трэба было шукаць лужыны, дзе яна адстаялася. Гэтая вада фактычна і была іх адзінай ежай за апошнія суткі.

Было гадзіны тры-чатыры пасля поўдня.

— Ідзём цяпер на захад, можа, там выберамся, — сказаў Мірон.

Пайшлі на захад. Мясцовасць была некаторы час даволі высокая. Пайшоў прыгожы сухі бор. Але хутка зноў уткнуўся ў балота. Прыйшлося зноў паварочваць направа.

Віктар раззлаваўся:

— Гэтак мы абыдзем навокал і зноў прыйдзем на старое месца. Скідай штаны! Трэба чаго б ні каштавала вырвацца адсюль. Тым болей што з гэтага боку возера няма, а толькі балота.

Яны адважна рынуліся ў багавінне. Трэба аддаць справядлівасць нашым хлопцам: паказалі яны сябе тут сапраўднымі героямі. Працiскаліся, караскаліся, скакалі з купіны на купіну, загразалі, выцягвалі адзін аднаго, пакуль... зноў не ўбачылі возера!

— Значыцца... мы на востраве?! — амаль шэптам сказаў Віктар.

— Невядома яшчэ, — запярэчыў Мірон. — Па-першае, мы не ведаем чацвёртага боку, а па-другое, бачыш, з вады вытыркаюцца кусты і нават дрэвы. Значыцца, гэта толькі паводка. Пойдзем хутчэй назад, каб паспець да вечара агледзець апошні бок.

Непрыемная была справа наогул, але цяпер больш за ўсё было крыўдна, што дарэмнымі аказаліся ўсе іх гераічныя намаганні. Хлопцы прасунуліся досыць далёка, і цяпер столькі ж трэба было ісці назад.

Выбраўшыся на сухое месца, яны зараз жа, нават не памыўшыся, накіраваліся на поўнач. Тут менш было клопату: адразу пераканаліся, што выйсці нельга. З гэтага боку яшчэ загіналася і возера, а між ім і берагам залягала на два—тры кіламетры балота.

Калі надышоў вечар, хлопцы сталі каля таго самага дрэва, якое дало ім першы прытулак...

— Ну, што скажаш на ўсё гэта? — звярнуўся Віктар да Мірона

— Скажу, што наша становішча ў тысячу разоў лепшае, чым у тых, хто трапіў на пустынны і бязлюдны востраў сярод акіяна. А мы не раз зайздросцілі ім, калі чыталі пра гэта ў кнігах.

14.

III

**«Па-а марам!» — Усё направа ды направа. — Зайцаў абед. — Зноў на тым сам ым месцы.**

Шпарка ішлі яны наперад па сухім бары. Злева час ад часу выблісквала возера. Бярозы, алешыны, вербалоз з маленькімі светла-жоўценькімі лісточкамі атачалі яго, нібы мярэжкі. Елкі і сосны на гэтым фоне здаваліся зусім чорнымі. Вясёлае веснавое сонейка шнырыла паміж дрэў і цешыла і расліну, і птушку, і ваду, і нашых хлопцаў.

Прыгода, вясна і маладосць напоўнілі іх жыццярадасцю. Нават на голад забыліся.

—Па-а марам, марам, марам, мара-ам! — зацягнуў Віктар.

— Сёння тут, а заўтра там! — падхапіў Мірон.

А ў адказ ім загуло ў лесе: «А-а-ам!»

— Ведаеш што? — звярнуўся Віктар да Мірона. — Я ўжо шкадую, што мы накіраваліся дадому. Я б ахвотна згадзіўся пажыць тут некалькі дзён. Тут табе і мора, і першабытны лес, і звяроў можна рукамі лавіць.

— Ды і я нічога супраць не меў бы, — усміхнуўся Мірон, — але есці няма чаго.

— А гэта што? — пакруціў Віктар зайца над галавой.

— А якім чынам яго засмажыш?

— Здабудзем агонь, як гэта робяць дзікуны, — і ўся табе музыка.

— А хлеба, солі дзе ўзяць?

— Булкі, чаю, каўбасы! — перадражніў Віктар. — Эх ты! А як жа эскімосы ды папуасы жывуць увесь век без гэтага. А ты і некалькі дзён баішся пражыць.

Пачакай, яшчэ, можа, давядзецца і супраць нашай волі пажыць тут, — прамовіў Мірон, калі глянуў наперад.

Там мясцовасць паніжалася, пераходзіла ў балота, а за ім далёка зноў блішчала вада.

— Бачыш, і там вада. Значыцца, трэба зварочваць.

Павярнулі направа. Цяпер пайшла ўжо нізіна; пад нагамі чвякала і пырскала вада. Густы ельнік яшчэ болей перашкаджаў ісці. Яны стараліся скарыстаць кожную магчымасць, каб пасунуцца ў свой бок, налева, але кожны раз павінны былі адступацца назад.

Знайшлі былі больш-менш сухую невысокую граду, якая цягнулася на поўдзень, але хутка выявілася, што гэта быў толькі клін, які ўпіраўся ў возера ці балота, — хто яго цяпер разбярэ! Прыйшлося вяртацца назад.

Гэтак ішлі яны гадзіны са тры. Настрой у абодвух даўно ўжо сапсаваўся. Не толькі ў Віктара ў чаравіках, але і ў Мірона ў ботах хлюпала вада. Змарыліся хлопцы страшэнна, а голад пачаў так дапякаць, што і вясна і ўвесь свет зрабіліся нямілымі.

— Гэтак, чаго добрага, і другую ноч давядзецца начаваць тут! — у роспачы сказаў Віктар.

16.

— Дзякую табе за такую дабрату.

— Хіба няпраўда? Нам прыйдзецца толькі пасядзець тут тыдзень ці два, пакуль спадзе вада. А ў тых людзей такой надзеі не было.

— Добра казаць — тыдзень ці два. А як пражыць іх без нічога?

— А гэта ўжо будзе залежаць ад нас саміх.

— Хіба хто выпадкова заедзе сюды?

— Лепш на гэта не спадзявацца, бо з кожным днём возера будзе адсоўвацца ад нас і застанецца балота, праз якое ніхто не палезе.

— Але ж з голаду дайсці можна за гэты час! Я ўжо не магу больш цярпець.

— Ну, калі прыйдзецца паміраць з голаду, то можна не толькі сырога зайца, але і пугача з'есці. Ад мяса, хоць і сырога, людзі не паміраюць.

Спакойныя разважанні Мірона трохі супакоілі і Віктара. Прынамсі, цяпер яны ведаюць, што іх чакае і што ім трэба рабіць.

— Вось тваё жаданне і збылося, — усміхнуўся Мірон. — Можаш цяпер і агонь здабываць, і жыць тут, як дзікун.

— Яно так, — паскроб патыліцу Віктар, — але на справе гэта зусім не так добра, як здавалася раней.

Сонца спускалася за лес. Апошнія праменні яго слізганулі па воднай прасторы, а затым накіраваліся ўгору. Загарэліся верхавіны дрэў, нібы сонца цяпер асвятляла іх больш, як удзень. Зайгралі на небе разнакаляровыя воблачкі, якіх, здаецца, да гэтага часу і не было. Ад вады дыхнуў халадок. Цішыня была поўная.

Пачуццё адзіноты ахапіла хлопцаў. Чаго яны сюды забраліся, далёка ад людзей, ад сваіх блізкіх? Што ім тут рабіць? А калі і як выберуцца — яшчэ невядома. Нездарма з іх смяяліся таварышы, калі пачулі аб іх намеры. Такія думкі ўпарта лезлі ў галаву і Віктару і Мірону, але гонар не дазваляў прызнацца ў гэтым не толькі перад таварышам, але і перад самім сабою. Голад, які яны сцішылі толькі вадой, з кожнай хвілінай мучыў іх усё больш і больш. Па меры таго як садзілася сонца, узмацняўся і холад.

— Давай рабіць бярлогу! — крыкнуў Віктар, страсянуўшы плячыма, нібы адганяючы ад сябе і холад, і голад і сумныя думкі.

У пясчаную ямку, дзе начавалі мінулую ноч, яны звалаклі ўсё сухое, што маглі знайсці вакол сябе, і ў дадатак яшчэ наламалі кучу яловых лапак. Атрымалася бярлога, ад якой не адмовіўся б і сам мядзведзь.

Хлопцы залезлі ў яе, некаторы час прыладжваліся і круціліся, як квактуха ў гняздзе, затым сцішыліся. Але, нягледзячы на стомленасць, адразу заснуць не маглі. Становішча, у якім яны так нечакана апынуліся, было вельмі непрыемнае. Ці паспеюць яны вярнуцца да пачатку заняткаў у тэхнікуме? Колькі дзён трэба на тое, каб вада сышла? Як пражыць гэтыя дні? Колькі трывогі будзе дома, калі яны спозняцца! Адным словам, было над чым задумацца.

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

### ВЯЛІКІЯ МОГІЛКІ ЛЯ РАКІ ПАМЕРШЫХ

У даўнейшыя часы людзі вялікія і малыя, не толькі ўладары, але і іх найбяднейшыя падданыя, — усе жылі тут для вечнасці. Зямное жыццё мела быць толькі апошняй стадыяй, якую павінны былі прайсці памершыя. Не важна, што гэты культ быў створаны капланамі для людзей вялікіх, важна, што так гаварыла тутэйшая рэлігія. У іншых раёнах кантынента, у той час, калі не быў ён яшчэ Новым Светам, магутным багам, якія кіравалі жыццём, а асабліва смерцю, а таксама тым, якія валодалі сіламі прыроды, у знак пашаны будавалі цудоўныя святыні.

Тут, ля вытокаў ракі Магдалены, якую называлі калісь «Рыо дэ лос Муэртос», ці Ракой Памершых, не сустракаем манументальных помнікаў сакральнай архітэктуры, як у старым Перу ці ў Мексіцы. Тут жыццё прысвечана было выключна смерці.

На вялікім абшары, навакол невялікага каланіяльнага мястэчка Сан Аўгустын, якое дало ўмоўнае імя цэлай культуры, засталося нямнога слядоў тагачаснага жыцця жыхароў гэтай тэрыторыі.

Аднак пятнаццаць стагоддзяў прастаялі грабніцы з іх цудоўнымі, манументальнымі скульптурамі. Гэтыя грабніцы выглядаюць сёння, як натуральная частка цудоўнага краявіду невысокіх, зялёных Андаў. Тэрыторыя гэта была калісьці суцэльнымі, вялікімі могілкамі. З далёкіх нават ваколіц прыносілі сюды індзейцы астанкі сваіх блізкіх, каб спачывалі ў такім цудоўным месцы, пад апекай тутэйшых багоў і людзей, якія служылі смерці.

Людзі пакінулі гэтую тэрыторыю яшчэ перад іспанскім нашэсцем, невядома, якія былі прычыны гэтага. Іх цывілізацыя памерла. Тым аднак, што засталося пасля іх — гэтымі могілкамі з вялікімі скульптурамі — ганарыцца сёння ўся Калумбія.



*Постаць Бога вады, выкутая на велізарным камені над прорвай у даліне ракі Магдалены.*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

### ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

#### СМАЛЕЦ

Пахаладала, і сталі біць на вёсцы кабаноў. Робяць гаспадыні розныя вырабы, адзін лепшы за другі, рыхтуюць на вяселле ці на хрэсьбіны. Ну, а смалец, звычайны сялянскі смалец, без якога не абходзіцца ніводная вясковая гаспадыня? Ці варта над ім ламаць галаву?

Варта. Нават у горадзе добрая гаспадыня смальцу не купляе. Добрая гаспадыня смалец робіць сама.

Нехта мог бы сказаць: падумаеш, смалец, ну, і што ж тут такога незвычайнага?! Кожны патрапіць гэта зрабіць. Патрава ж зусім простая. Можа і кожны патрапіць зрабіць, можа і простая гэта патрава, але здаецца, што лепш было б добра зрабіць патраву простую, чым абы-як нейкую складаную. Добра зроблены смалец як жа любім мы есці зімой, памазаўшы ім хлеб і не баючыся нават, што патаўсцеем!

Ідэальна правільны смалец робяць у наступных прапорцыях: на паўкілаграма свежай саланіны бяруць 10 дэкаў (100 г) капчонага бочку (грудзінкі), адно яблыка, галоўку часнаку, крыху майранку. Саланіну і капчоны бочак прапускаем праз мясарубку, прапускаем таксама яблыка. Усё гэта кладзем у чыгунок або каструлю і ставім на невялікім агні. Галоўку часнаку дзелім на часткі, абіраем і ўкідаем у бульгочучы смалец. Пасля гэтага дадаем майранку і солім па смаку.

Калі смалец будзе мець залацісты колер, выліваем яго ў нейкі посуд, найлепш гліняны, і ставім у халоднае месца, каб ён застыў.

Ёсць і іншы спосаб смажэння добрага смальцу. Разам з саланінай і капчоным бочкам ды яблыкам прапускаем праз машынку таксама цыбулю. У такім выпадку часнаку ўжо не дадаем. Іншыя дадаткі такія самыя.

Калі хто не любіць, каб смалец меў дымны запах, можа не дадаваць капчонага бочку. Варта яго аднак тады крыху даўжэй смажыць.

Некаторыя не прападаюць за майранкам. Можна тады смажыць і без яго смалец як першым, так і другім спосабам.

Як бачым, спосабаў смажэння добрага смальцу ёсць шмат, і кожны можа выбраць для сябе адпаведні. Адно толькі неабходна: у смальцы павінны знаходзіцца залацістыя, смакавітыя скварачкі. Такі смалец, праўду кажучы, шкада ўжываць у якасці тлушчу для смажэння. Яго можна есці з хлебам ад раніцы да вечара.

*Гаспадыня*

Мілыя чытачкі, даўно не атрымлівалі мы ад вас ніякіх лістаў. Пішыце нам аб тым, што бачыце ў нашых парадах добрага, а што вам не падабаецца, чаго ёсць замнога, а чаго замала. Вашыя прапановы і пажаданні будзем старацца выканаць.

## КАР'ЕРА ШПІЁНА

Нядаўна Люблінскае выдавецтва надрукавала чарговую кніжку вядомага беластоцкага пісьменніка-дакументаліста *Аляксандра АМІЛЬЯНОВІЧА*. Гэтая невялікая кніжачка (ледзь 92 старонкі) зручнага фармату называецца **«Sauer W-1149»**

«Зауэр» — па нямецку значыць «кіслы» або «цяжкі», а сказ: «Das Leben sauer machen» — значыць «атручваць камусьці жыццё». Дык сапраўды сімвалічны псеўданім прыбраў для сябе агент заходнегерманскай разведкі, славуты Якуб Стральчук. Менавіта яго шпіёнскую кар'еру апісвае Аляксандр Амільяновіч. Пачалася яна, на жаль, тут, на нашай прыгожай зямлі пад Бельскам, у вёсцы Крывая, пачалася даўно, яшчэ ў 1925—26 гадах. Стральчуку было тады 20 год і лічыўся ён ужо актыўным членам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

*«Вось тады,* — пішуць яго начальнікі па шпіёнскай рабоце ў даваеннай «Дэфе», — *Стральчук з'явіўся ў камендатуры палітычнай паліцыі ў Бельску-Падляшскім і перадаў падрабязныя паказанні аб дзейнасці камуністаў у Крывой і наваколлі. Ад гэтага часу ён пастаянна перадаваў інфармацыі нашым разведчыкам у Бельску-Падляшскім: Манькоўскаму, Радульскаму, Дзягцярскаму і Мінкевічу. Інструкцыі атрымоўвае ён ад палітычнай паліцыі з Беластока... На аснове яго рапартаў удалося ліквідаваць або пасадзіць у астрог шмат камуністаў з Бельска-Падляшскага, Орлі і Шчытоў... Паводле нашай ацэнкі Стральчук мае ў сабе рысы нязвыклага агента.* ***Яго*** *спрыт і тактыка дзейнасці вызначылі яму асаблівую ролю ў дэканспірацыі кампартыі.* ***Цяпер*** *ён з'яўляецца дзеячам абкома КПЗБ у Навагрудку, а затым па даручэнню Цэнтральнага Камітэта партыі разгортвае арганізацыйную дзейнасць сярод моладзі ў акругах: Вільна, Пінск, Брэст, Гродна, Беласток і Навагрудак, а таксама прымае ўдзел у працы ЦК КПЗБ... На тэрыторыі Беласточчыны завербаваў да супрацоўніцтва з палітычнай паліцыяй некалькі агентаў, між іншым, П. Чарвінскага ў Райску, Б. Лемяша ў Плёсках і М. Грыгарука ў Гусаках...»*

Так летам 1933 года характарызавалі свайго агента начальнікі з палітычнай паліцыі, якую ўсе тады называлі «Дэфай». Пазнейшы «Зауэр» сапраўды атруціў жыццё многім сем'ям з вёсак Бельскага павета. За паліцэйскія залатоўкі ён выяўляў прозвішчы членаў і дзеячаў КПЗБ і Грамады. Яго паказанні абазначалі для дзесяткаў людзей спярша зверскія катаванні, а затым гады суровай турмы. А ён пісаў:

*«Я, Якуб Стральчук, заяўляю, што арыштаваныя жыхары Крывой: Назар Цімашук, Рыгор Яшчук, Мікалай Раманюк, Апанас Міхальчук, Васіль Башун, Сцяпан Яканюк, Ціхан Семянюк, Ян Асіпюк, Рыгор Леўчук, Юры Краўчук, Дзям'ян Раманюк і Піліп Раецкі — гэта дзеячы КПЗБ. Сакратаром раённага камітэта з'яўляецца Назар Цімашук, а яго намеснікам Рыгор Яшчук і Мікалай Раманюк. Я сустракаўся з імі на партыйных сходах, чытаў ім тайную камуністычную літаратуру і вёў палітычную працу...»*

І гэтага было дастаткова для санацыйнага суда, які на аснове паказанняў паліцэйскага агента прыгаварыў усіх названых на турму ад 3 да 8 год.

# ТРЫБУНА чытачоў

## КАБ ЛЕПШ РАДЗІЛА

У вёсцы Тафілаўцы сяляне нядрэнна (некаторыя багата) высяваюць на свае палеткі і сенажаці штучныя ўгнаенні. У асноўным купляюць яны іх у рамках кантрактацыі, што напэўна з'яўляецца для селяніна ашчаднай і карыснай справай.

Солтыс М. Пень разам з грамадскім аграномам нядаўна планавалі куплю штучных угнаенняў на будучы 1971 год. І таксама сяляне са зразуменнем прынялі новы план.

Вядома, каб радзіла, неабходна навейшая сялянская культура.

*М. Панфілюк*

## ЦІКАВЫЯ СЦЕНГАЗЕТЫ

У пачатковай школе ў Кухмах Беластоцкага павета ёсць цікавая сценгазета з фотаздымкамі і інфармацыяй аб суседнім прадпрыемстве «Імшар».

Цікава рэдагуецца таксама сценгазета, якая знаходзіцца ў пачатковай школе ў Круглым Ляску (Беластоцкі павет). Падзелена яна на часткі, ёсць тут весткі са свету, краіны і ваколіцы. Сценгазета багатая інфармацыямі і здымкамі, выбранымі з газет.

Варта дадаць, што рэдагаваннем іх займаюцца самі вучні.

*Янка Цялушэцкі*

## ЧАМУ ТАКАЯ РОЗНІЦА?

Гаспадары ГРН Новаберазова і Старакорніна прымяняюць па 90 кг NPK на гектар. Амаль на палову менш, бо каля 50 кг на гектар, прымяняюць гэтых угнаенняў гаспадары з ГРН у Белавежы, Кленіках, Трасцянцы, Нарве, Нараўцы і Семяноўцы.

Чаму гэткая розніца? А мо ў тых ГРН і так лепшыя ўраджаі? (ак)

## УРАЧЫСТАЯ ВЕЧАРЫНА

У сувязі з 27-годдзем Людовага войска польскага гарцэры са Старога Ляўкова (Гайнаўскі павет) падрыхтавалі ў школе ўрачыстую вечарыну. На вечарыну запрасілі яны ветэрана II сусветнай вайны грам. Сколіка, які расказаў аб сваім удзеле ў баях на фронце. Затым гарцэры правялі «згадуй-згадулю» аб Людовым войску польскім і выступілі з мастацкай самадзейнасцю.

Пасля мастацкай часткі адбылася маладзёжная забава. Варта дадаць, што вялікую дапамогу ў падрыхтоўцы вечарыны атрымалі гарцэры ад свае апякункі — настаўніцы Лілі Валкавыцкай.

*Янка Цялушэцкі*

## ВУЧНЁЎСКІ ЧЫН



Вучні са Старога Ляўкова (Гайнаўскі павет) пры пабудове спартыўнай пляцоўкі на школьным панадворку. *Фота: Я. Цялушэцкі*

## 27 ГОД ВОЙСКА ПОЛЬСКАГА

12 кастрычніка — гістарычная гадавіна перамогі І Дывізіі ім. Тадэуша Касцюшкі пад Леніна.

Цікава адзначыў гэтае свята Бельскі беларускі ліцэй. У ліцэі 12 кастрычніка адбылася ўрачыстасць, якую падрыхтавалі вучні разам з настаўнікамі. І так у 12 гадзін вучні разам з настаўнікамі сабраліся ў фізкультурнай зале, якая была прыгожа ўдэкаравана. На нашу ўрачыстасць прыбыў прадстаўнік войска капітан Аляксандр Баярчук.

Адкрыў урачыстасць дырэктар ліцэя М. Гайдук, а затым прадстаўнік школьнага ЛОК-у В. Магрук прачытаў вельмі цікавы даклад, у якім прадставіў ваенны шлях Войска Польскага. Пасля наш госць капітан Баярчук расказаў нам многа цікавага. Гаварыў ён аб воінах, якія прайшлі па нашай тэрыторыі, і многа таксама расказаў аб нашым Войску Польскім. Вучаніцы II а класа паднеслі нашаму госцю кветкі і падзякавалі за такое прыгожае і карыснае выступленне. Пасля афіцыяльнай часткі адбылася артыстычная частка, якую падрыхтавалі вучні II, III, і IV класаў пад кіраўніцтвам нашай настаўніцы Галіны Карпюк — выкладчыцы польскай мовы.

*Вера Ахрымюк*
*вучаніца IV а кл. Бельскага*
*Беларускага ліцэя*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**
„Koledzy" (radz.), 3—4. „Pociąg na tyły" (radz.), 5—6. „Szlacheckie gniazdo" (radz.), 7—8.

**ДУБІНЫ**
„Daleki ukochany" (radz.), „Dom na rozstajach" (radz.), 7—8.

**НАРАЎКА**
„Marynarz Czyżyk" (radz.), „Aktorka księcia pana" (radz.), 4—8.

**НАРВА**
„Burzliwa młodość" (radz.), „Statek odpływa o świcie" (radz.), 4—8.

**ЧЫЖЫ**
„Biała karawana" (radz.), „Słońce świeci dla wszystkich" (radz.), 4—8.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**
„Za frontem" (radz.), „Siedem nianiek" (radz.), 4—8.

**АРЭШКАВА**
„Szerszeń" (radz.), „Szesnasta wiosna" (radz.). 4—8.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**ОРЛЯ**
„Naczelnik Czukotki" (radz.), „Burzliwa młodość" (radz.), 4—8.

**РАЙСК**
„Tajemniczy mnich" (radz.), „Babcia, dziadkowie i ja" (radz.), 4—8.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**
„Co wieczór o 11-ej" (radz.), 3—4. „Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), 5—6 „Nikt nie chciał umierać" (radz.), 7—8.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**
„Wkrótce nadejdzie wiosna" (radz.), 3—4 „Gdzie jesteś Maksymie" (radz.), 5—6. „Gwiazdy w morzu" (radz.), 7—8.

**ЯНАЎ**
„Wkrótce nadejdzie wiosna" (radz.), 4—8.

**Шудзялава**
„Nigdy nie wrócę" (radz.), „Tajemnica zielonego boru" (radz.), 4—8.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**
„Co wieczór o 11-ej" (radz.), 3—4. „Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), 5—6. „Nikt nie chciał umierać" (radz.), 7—8.

**МЕЛЬНІК**
„Był sobie dziad i baba" (radz.), 3—4. „Królowa stacji benzynowej" (radz.), 5—6. „Co wieczór o 11-ej" (radz.), 7—8.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**
„Szlacheckie gniazdo" (radz.), 3—4. „Królowa stacji benzynowej" (radz.), 5—6. „Co wieczór o 11-ej" radz.), 7—8.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**
„Taszkient miasto chleba" radz.), „Wkrótce nadejdzie wiosna" (radz.), 4—8.

**НОВЫ ДВОР**
„Dożyjmy do poniedziałku" radz.), 4—8.

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка!

Мне 20 год, рост 162 см, размер грудной клеткі — 96 см, талія 76 см, бёдраў — 96 см. Найгорш, што маю вельмі нязграбныя ногі. Парай, як мне апранацца, каб затушаваць нязграбнасць ног. Хачу пашыць сукенку з чырвонай воўны, але не ведаю, як. Падай мне фасон. За параду буду вельмі ўдзячная.

*Алеся з Гайнаўшчыны*

Алеся! Размеры, пададзеныя табой, гавораць аб тваёй зграбнасці. А затушаваць нязграбнасць ног цяпер вельмі лёгка, таму што цяперашняя мода падоўжылася. Падаю табе тут два фасоны сукенак, даўжыню якіх выбярэш сабе сама, яна павінна быць такая, у якой найлепш будуць выглядаць тваe ногі. На першым малюнку — сукенка чырвонага колеру (мода 1970 год). Зазначаныя крэскі — гэта строчка (стыбнаванні), а ў сярэдзіне ўстаўлены матэрыял іншага колеру (напрыклад, гранатовы, белы). На плячах па тры гузічкі і манжэты ў сукенкі таксама зашпільваюцца на такія ж самыя гузічкі. У другой сукенцы можна рукавы зрабіць доўгія.

Каліста В. з калёніі Крыніцы! Штучныя дапінкі да валасоў можна купіць у Беластоку ў магазіне «Меркуры», інакшай завуць яго «Стары дом таваровы» на вул. Рынак Касцюшкі, а таксама ў «Коміce» (супраць ратушы). Там бываюць парыкі са штучных валасоў у цане 240 зл., а штучныя дапінкі, якія бываюць у магазіне «Меркуры» каштуюць: доўгія — да 800 зл, кароткія — 450 зл. Мне здаецца, што лепш купіць дапінку з натуральных валос, якія ёсць амаль у кожным фрыз'ерскім салоне. Штучныя аднак розняцца ад натуральных валасоў. Цана натуральных валасоў у параўнанні да штучных аднолькавая, а мо яшчэ і ніжэйшая. Эфект дапінкі з натуральных валасоў аднак на многа большы. *Сэрцайка*



# фальклор

Даў Бог седзячы, то яшчэ хоч лежачы... Гэтую пагаворку можна часта пачуць у нашай вёсцы. Раскажу, як яна паўстала.

Старыя людзі кажуць, што вельмі, вельмі даўно жыта радзіла на дзіва. Каласы былі такія вялікія, як «прачы», а адно зярнятка як цяперашні колас. Жаць прыходзілася седзячы. Людзі жылі багата і пачалі ленавацца і крыўдаваць на Бога, што седзячы цяжка жаць. Пачалі дамагацца каласоў да зямлі, каб жаць было можна лежачы. Бог раззлаваўся і зрабіў каласкі маленькімі, а саломіну доўгую. Таму прыходзіцца не сядзець каля жніва, а добра згінаць спіну. Вось чаму гавораць на тых, хто мае добра, а хоча яшчэ лепей: «Даў Бог седзячы, то яшчэ хоча лежачы».

*Вераніка Леанюк*
*Плёскі, Бельскі павет*

Калі таварышы з ЦК КПЗБ распазналі сапраўдную воўчую скуру Якуба Стральчука, партыйны суд рашыў ліквідаваць яго. Аднак шматлікія спробы не ўдаваліся. Стральчук без тайнай аховы не паказваўся на вуліцы, ездзіў таксама на паліцэйскіх аўтамашынах. Урэшце пастаноўлена было застрэліць яго ў час судовай расправы над студэнтамі. Страляць ў здрадніка добраахвотна ўзяўся малады тады камуніст, сакратар Гродзенскага абкома Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі — *Сяргей ПРЫТЫЦКІ*, які зараз з'яўляецца выдатным партыйным і дзяржаўным дзеячам Савецкай Беларусі.

*«...дула аднаго пісталета, — піша Амільяновіч, — накіраваў у галаву агента, а другога — у плечы. Націснуў куркі. Грымнулі стрэлы. Суддзі і пракурор ныpнулі пад стол. Агент памалу асунуўся ля ног непрытомнага ад хвалявання Прытыцкага...»*

На жаль, Якуб Стральчук вылізаўся ад гэтых ран. Аднак на Заходняй Беларусі ён ужо быў «мёртвым», да нічога паліцыі непрыдатны. Яна нават наўмысна рассявала весткі, што Якуб Стральчук памёр ад ран. У сапраўднасці пад зменeным прозвішчам паслалі яго ў Познань, на машынабудаўнічы завод Цагельскага, каб выявіў сярод рабочых камуністычную ячэйку. Там ён перайшоў на службу гітлераўскай разведкі, і разам з прыходам немцаў на Беласточчыну ён таксама вярнуўся сюды. Генерал СС Гейнрых Мюлер так вось рэкамендаваў Якуба Стральчука беластоцкаму гестапа:

*«Паведамляю, што днямі будзе высланы ў вашае распараджэнне V-ман Якуб Стральчук, былы жыхар вёскі Крывая ў Бельскім павеце. Гэты чалавек мае вялікі вопыт у распрацоўцы камуністычнага падполля...»*

Ізноў паплылі даносы, якія раўняліся прыгавору смерці. V-ман «Гурка», значыць Якуб Стральчук — брахаў на жыхароў Навасад, Дубін, Пераходаў, Крывой і многіх іншых вёсак. На яго сумленні звыш 140 жыхароў Райска...

А калі закончылася вайна, Якуб Стральчук уцёк у Заходнюю Нямеччыну і перайшоў на службу разведкі ФРГ, стаў «Зауэрам W — 1149».

Аповесць Амільяновіча абаснавана выключна на дакументах, яе варта купіць і прачытаць. Каштуе ўсяго 9 зл.

*Віктар Рудчык*

## ВІЗІТ БЕЛАВЕЖСКАГА ЛОСЯ Ў БЕЛАСТОКУ

Незвычайны госць наведаў 3 кастрычніка г.г. горад над Белай. Быў гэта лось. Гуляў ён па цэнтральнай артэрыі горада — Алеі 1 Мая. Вёў сябе прыстойна. Раззлаваўся толькі, калі пачаў яго асачваць натоўп дзяцей. Дык пайшоў на штурм галаслівай ватагі. Адзін малыш наеўся нават многа страху, але нічога дрэннага лось яму не зрабіў.

Пасля шматгадзіннай гонкі, лось апынуўся на панадворку беластоцкай электроўні. Тут ім заапекаваліся армоўцы. Гасцяваў лось аж да поўначы. Адкінуў аднак запрашэнне выйсці праз шырока адчыненыя вароты: фантастычным скачком пераадолеў завадскі плот і пайшоў у няведамае.

На думку леснікоў і паляўнічых, якія гурмам прыйшлі паглядзець звера, лось прывандраваў з Гайнаўскага павета, значыць з Белавежскай пушчы. (рось)

На здымку: месца для адпачынку выбраў сабе лось паміж двума грузавікамі. *Фота Цаф —Сянько*




# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 7107 W-4

